**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 5 (773) 29 студзеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Мастак Віктар Дудкевіч прэзентуе сваю выставу ў Браславе.
*Працяг тэмы на стар.5*



**В.Е.Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

## Загоннае паляванне на кабана, лася, казулю еўрапейскую – скончылася

### *Аднак працягваецца паляванне на кабана і бабра рачнога*

Вось і скончыўся 2014 год, а з ім і некаторыя віды паляванняў. Загоннае паляванне на кабана, лася, казулю еўрапейскую скончылася 31 снежня 2014 года. Аднак паводле Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання працягваецца паляванне на кабана і бабра рачнога. Дазволеныя спосабы на дадзены від жывёл з падыходу, з засады, а на бабра таксама пасткамі, пры якіх дазволена выкарыстанне паляўнічых сабак усіх парод, акрамя ганчакоў і барзых, капканамі № 3-7.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае паляўнічым, якія будуць ажыццяўляць паляванне на кабана, пры здабычы дарослых жывёл дазваляецца выкарыстоўваць наразную зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 3000 джоўлёў і патроны да гладкаствольнай зброі падрыхтаваныя куляй, паляўнічыя лукі і арбалеты, пры гэтым лук павінен мець сілу нацяжэння не меней 27 кг, арбалет – не меней 43 кг. Маладняка да двух гадоў дазволена здабываць з выкарыстаннем наразной зброі з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўлёў і патронаў да гладкаствольнай зброі падрыхтаваных куляй і карцечай, а таксама паляўнічыя лукі і арбалеты з сілай нацяжэння ўказанай вышэй.

Таксама жадалася б нагадаць паляўнічым пра строгае выкананне тэхнікі бяспекі на паляванні. Так для прыкладу 25 студзеня 2015 года падчас праверкі дакументаў на права палявання ў двух грамадзянаў Шаркоўшчынскага раёна не былі разраджаныя стрэльбы. Хоць у Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ўказана, што стрэльбы павінны быць разраджаныя пры пераадоленні розных перашкод, пераездзе з аднаго загону ў іншы, перад пасадкай у транспартныя сродкі, пры падыходзе да месца прывалу ці збору, пры сустрэчы са службовымі асобамі паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія здзяйсняюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях. Адказнасць за дадзенае парушэнне прадугледжана ч.3 арт. 15.37 КоАП Рэспублікі Беларусь і парушальнікам пагражае штраф у памеры да 40 базавых велічынь ці пазбаўленне адмысловага права.

Аб усіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефоне даверу (02156) 2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## Глыбоцкі раён

# Падвяла прага нажывы

■ Станіслаў Раманчук.

**У наш няпросты час барацьба з рознымі негатыўнымі з'явамі і карупцыяй будзе толькі ўзмацняцца, што ўжо адчулі па сабе чыноўнікі розных рангаў.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне напярэдадні першай паездкі ў рэгіён новага главы вобласці здарыўся гучны скандал. З падачы раённай пракуратуры была распачата крымінальная справа ў адносінах начальніка аднаго з вядучых аддзелаў райвыканкама за злоўжыванні сваім службовым становішчам. Яшчэ ў 2012 годзе, калі горад рыхтаваўся правесці Дзень беларускага пісьменства, ён даў распараджэнне прыняць на пасаду вартаўніка аднаго са сваіх родных. Фактычна гэты работнік з'яўляўся "мёртвай душой", бо рэальна службовыя абавязкі не выконваў. Замест яго спраўна да восені мінулага года атрымоўваў налічаную зарплату кіраўнік, які з'яўляўся яшчэ і дэпутатам райсавета, але, як атрымоўваецца, быў махляром і вёў сумніўны лад жыцця. І хоць заробкі ў вартаўнікоў не параўнаць з акладамі кіруючых работнікаў, але крыху больш за два гады набегла сума немаленькая. У сваю кішэню супрацоўнік райвыканкама паклаў амаль 57 мільёнаў рублёў, украдзеных з мясцовага бюджэту. Гэта афера была выяўлена падчас фінансавай праверкі афіцэраў абласной АБЭП і райаддзела міліцыі. Крымінальнай справай заняўся Следчы камітэт Беларусі, а яго супрацоўнікам прыйдзецца таксама заняцца і справай былога галоўнага бухгалтара Шаркоўшчынскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Там сума ўкрадзеных бюджэтных грошай яшчэ больш унушальная, амаль 150 мільёнаў рублёў, за што пагражае да 12 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

## Пастаўскі раён

# Выручаюць толькі сцены

■ Кастусь Александровіч

**У многіх рэгіёнах беларускай глыбінкі жыць зараз стала няпроста, бо мала працы і невысокія даходы.**

Да ліку такіх у Пастаўскім раёне адносіцца адзін з самых вялікіх у Прыдзвінні Варапаеўскі сельсавет, які да таго страціў статус пасавета. Тут спачатку збанкрутаваў, быў прададзены расійскай фірме, а потым быў канчаткова закрыты шклозавод "Гута". На мяжы гібелі быў і Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат, адкуль сышлі амаль усе мужчыны-кіраўнікі. У няпросты момант сталі кіраваць прадпрыемствам жанчыны, правялі мадэрнізацыю шэрагу цэхаў, кацельні, аднавілі ўласную міні-ГЭС. Праўда, цяпер сітуацыя на мясцовым ДАКу зноў няпростая, мала заказаў, але жанчынадырэктар не здаецца. Яшчэ адно прадпрыемства ў гарпасёлку – завод жалезабетонных вырабаў стаў стратным летась, аб'ёмы вытворчасці склалі толькі 60 % да ўзроўню 2013 года. У няпростай сітуацыі запрасілі сюды ўзначаліць, што цікава, таксама жанчыну, 27-гадовую Алесю Дудалеву, мясцовую ўраджэнку. У свой час яна працавала на заводзе ЖБВ эканамістам, да пераходу на працу ў адну з камерцыйных структур райцэнтра нават два гады з'ўлялася намеснікам дырэктара. Хто ведае, калі мужчыны пасуюць перад цяжкасцямі і апускаюць рукі, можа і ёй удасца аднавіць супрацоўніцтва з маскоўскімі фірмамі. Дарэчы, кіраваць і мясцовым сельсаветам прызначылі днямі яшчэ адну жанчыну, кваліфікаванага юрыста Наталлю Седзюкевіч.

## Полацкі раён

# А маглі б жыць

■ Чэслаў Якубовіч.

**У гэтым годзе зіма ў Беларусі даволі лагодная і цёплая, што аднак не прывяло да змяншэння колькасці розных трагічных здарэнняў.**

У адзін дзень па іроніі лёсу ў Полацкім раёне загінулі ў агні два мужчыны пажылога ўзросту. Спачатку ноччу ў вёсцы Тадуліна суседзі заўважылі вогнішча ў доме, у якім пражываў адзін пенсіянер сталага ўзросту. Вяскоўцы адразу выклікалі пажарных, аднак калі тыя прыехалі на месца пажару, агонь ужо поўнасцю ахапіў хату. Калі з тушэннем пажару справіліся, у кутку моцна абгарэўшага памяшкання на ложку быў знойдзены труп чалавека. Як мяркуецца, вясковец мог загінуць з-за неасцярожнасці пры курэнні, альбо печ была няспраўная ці цеплілася з парушэннямі правілаў эксплутацыі. Яшчэ праз некалькі гадзін пажарныя прыбылі па выкліку на пажар у адным з дамоў прыватнай забудовы ўжо ў самім горадзе. Малюнак трагедыі паўтарыўся: там быў знойдзены пасярод абгарэўшага памяшкання труп яшчэ аднаго 62-гадовага пенсіянера. Ад чаго загінуў гэты гараджанін, высветліцца пасля завяршэння следства і правядзення неабходных пажарна-тэхнічных экспертыз. Перад гэтым на Полаччыне ўдалося выратаваць ад гібелі падчас пажараў у горадзе двух мужчын. А вось у суседнім Наваполацку зафіксавалі новую бяду з удзелам маладых людзей. Ноччу на вялікай хуткасці ляцела на іншамарцы кампанія хлопцаў - аўто ўрэзалася ў слуп і ў салоне Мазды загінуў 19-гадовы пасажыр.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 29.01.15 | | | | Пятніца 30.01.15 | | | | Субота 31.01.15 | | | | Нядзеля 01.02.15 | | | | Пан.02.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -3 | -2 | -1 | -1 | -1 | -1 | 0 | +1 | +1 | +2 | +4 | +4 | +3 | +2 | 0 | -1 | -1 | -1 |
| Ціск | 737 | 734 | 733 | 733 | 732 | 731 | 730 | 729 | 727 | 725 | 725 | 724 | 722 | 720 | 720 | 726 | 731 | 733 | 732 |
| Вільготнасць | 94 | 90 | 90 | 93 | 95 | 95 | 90 | 94 | 97 | 96 | 95 | 97 | 96 | 95 | 94 | 89 | 91 | 90 | 90 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 6 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 6 Пд-У | 4 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 2 З | 9 З | 5 Пд-З | 5 Пд | 4 Пд |

# Аб самым надзённым

## НАПЯРЭДАДНІ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ СТАЛІ РАСЦІ СТРАТЫ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЦЭНЫ НА ІМПАРТНЫЯ ТАВАРЫ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сітуацыя ў нас, на жаль, нават больш праблемная, чым у 2009 і 2011 гадах, калі Беларусь ужо перажыла няпрасты перыяд свайго развіцця. А пакуль у краіне пакупнікі заўважылі, як сталі пусцець полкі айчынных магазінаў і гандлёвых цэнтраў з-за аб'яўленага мараторыя на неабгрунтаваны рост цэн.**

Пра нашу велізарную залежнасць ад "брацкай" Расіі ведаюць усе беларусы, ад старых да моладзі. Аднак з кожным днём сітуацыя на расійскіх прасторах становіцца ўсё больш трывожнай, там суседні занадта папулярны лідар Пуцін адкрыта папярэджвае суайчыннікаў, што іх гіганцкую па памерах краіну чакаюць складаныя гады наперадзе. Дзіўны расейскі народ: ім жыццёвыя цяжкасці стварыла менавіта імперская палітыка лідарапалкоўніка, аднак больш паловы расіян (па сацапытаннях 55 % грамадзян) жадаюць, каб Уладзімір Уладзіміравіч кіраваў імі і пасля 2018 года.

Тым часам у сярэдзіне зімы рэзка абвастрылася сітуацыя на ўсходзе Украіны, дзе пачаліся зноў паўнамаштабныя баявыя дзеянні. Для нас гэта таксама дрэнна, бо відавочна, што антырасійскія санкцыі з боку Захаду будуць толькі ўзмацняцца, паколькі той жа У. Пуцін пляваў па-сутнасці на мінскія дамоўленасці і не збіраецца выводзіць свае войскі з тэрыторыі Данбаса. Таксама Крэмль не згаджаецца даваць згоду на прыбыццё міжнародных наглядальнікаў у зону канфлікту пад Данецкам і Луганскам і не адводзіць свае шматлікія войскі ад украінскай граніцы. Аднак вайна ніколі не спрыяла добраму жыццю людзей з усіх канфліктуючых бакоў.

Тым часам спецыялісты ўплывовага Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця зрабілі змрочныя прагнозы далейшага развіцця эканомікі нашых рускіх суседзяў. Яшчэ некалькі месяцаў назад яны агучвалі лічбы падзення ВУП Расіі ў 2015 годзе 0,2 %. Новая іх ацэнка называе падзенне ў памеры 4,8% і аслабленне рубля РФ да 75 і нават да 90 адзінак за 1 USD. На гэтым вось сумным фоне ў Беларусі пакрыху пачынаецца падрыхтоўка да галоўнай палітычнай падзеі – прэзідэнцкіх выбараў-2015. Падобна на тое, што беларускі лідар канчаткова вызначыўся праводзіць іх восенню ў лістападзе з надзеяй, што "если нам народ доверяет – он поддержит нас в самые тяжелые времена". Дакладную дату гэтых выбараў Цэнтрвыбаркам паабяцаў назваць у пачатку жніўня.

Так адназначна пра новыя выбары А. Лукашэнка заявіў днямі на 6-й пазачарговай сесіі парламента падчас прадстаўлення ім дэпутатам прызначанага новага главы беларускага ўрада. Таксама кіраўнік дзяржавы пацвердзіў, што сёлета прадоўжацца і новыя перастаноўкі, ратацыя кадраў, каб не было цяжкіх часоў, каб праводзілася і надалей моцная сацыяльная палітыка. А вось новы беларускі прэм'ер А. Кабякоў заклікаў упраўленцаўміністраў перастаць прасіць грошы і пачынаць дзейнічаць. На парадку дня зараз адна з важнейшых задач - жорсткі кантроль за цэнамі, які, праўда, паабяцалі не будзе вечным.

Адміністрацыйны кантроль за цэнаўтварэннем робіцца не ад добрага жыцця. Справа ў тым, што рэальны стан многіх беларускіх прадпрыемстваў сведчыць пра пачатак крызісу ў эканоміцы. Гэта вам не жартачкі, што летась амаль падвоілася ў Беларусі колькасць стратных прадпрыемстваў і арганізацый. У мінулым годзе ў студзенілістападзе вытворцы атрымалі 12,97 трыльёнаў рублёў страт. У рэальным сектары эканомікі, удумайцеся, ужо 36 % прадпрыемстваў з'яўляюцца неплацежаздольнымі на фоне цяжкай сітуацыі ў Расіі. На складах і пляцоўках адгрузкі тых жа БелАЗа, МАЗа, МТЗ, "Гомсельмаша" і іншых вытворцаў ужо некуды дзяваць гатовую прадукцыю.

Што будзе далей там і на іншых праблемных прадпрыемствах, нават цяжка загадваць, бо нават перад выбарамі прыйдзецца ісці на аптымізацыю (скарачэнні) штату працоўных. І калі прадоўжыцца зніжэнне попыту на нашу прадукцыю на галоўным рынку збыту ў Расіі, то пра камфортнае жыццё беларусаў, пра ўстойлівае фінансавае становішча можна і не думаць. Сітуацыя ў нас, на жаль, нават яшчэ больш праблемная, чым у 2009 і 2011 гадах, калі Беларусь ужо перажыла няпросты перыяд свайго развіцця. А пакуль у нашай краіне многія пакупнікі заўважылі, як сталі пусцець полкі айчынных магазінаў і гандлёвых цэнтраў з-за аб'яўленага мараторыя на неабгрунтаваны рост цэн.

Да нядаўняга часу сутыкацца з дэфіцытам асобных прадуктаў, а цяпер і з адсутнасцю ў продажы, асабліва ў глыбінцы, бытавой тэхнікі суайчыннікам не даводзілася. Улады на гэта адрэагавалі аператыўна і далі дазвол бізнэс-структурам павышаць цэны на закупляемыя імпартныя тавары. Праўда, рэнтабельнасць прадаж абмежавалі 3 % як імпарцёраў, так і вытворцаў і самога гандлю. А дагэтуль гандлёвыя кампаніі працавалі таксама са стратамі на працягу паўмесяца і ў далейшым для ўсіх становішча будзе няпростым. Падобна на тое, што айчынная эканоміка становіцца насуперак жаданням улад усё больш некіруемай. Вось і чарговае распараджэнне беларускага лідара аб аднаўленні пагалоўя свіней не ўдалося выканаць.

Цікава, што зараз усе мы чакаем, як далей будзе сябе весці долар у Беларусі, расці альбо падаць, у што верыцца з цяжкасцю. Яшчэ перад навагоднімі святамі першымі адчулі цяжкасці на валютным рынку беларусы-турысты, для якіх адпачынак за мяжой падаражэў у 2 разы. Зараз курс валютнага цэнаўтварэння стаў быццам свабодным, але свабодна і пуста ў касах абменнікаў. У многім з-за вайны ва Украіне наш рубль так абясцэніўся і эксперты адзінадушныя, што гэта яшчэ не канец бягучых цяжкасцей.

## Дзень за днём

**Курс долара ў Беларусі працягвае расці, у абменніках валюты не хапае. Урад назваў 62 раёны, з якіх 18 на Віцебшчыне, неспрыяльных для вытворчасці сельгаспрадукцыі. Мінімальны стаж для атрымання пенсіі ў Беларусі будзе расці. З "дармаедаў і лайдакоў" збіраюцца браць па 3,6 млн. рублёў. Рост цэн на паліва выклікала "ручное кіраванне" беларускай эканомікай, хоць кошт нафты рэзка ў свеце знізіўся. На 1,5 года адклалі для беларусаў забарону на ўвоз аўто маладзей 8-мі гадоў. Адразу 40 моцных футбольных легіянераў пакінулі футбольны чэмпіянат Беларусі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Далейшыя санкцыі супраць Расіі, як заявіў прэзідэнт ЕС Дональд Туск, Еўрасаюз абмяркуе ў сакавіку, а вось Украіне будзе аказвацца яшчэ большая дапамога.

**Украіна.** Сітуацыя ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі ў Данбасе рэзка абвастрылася, за тыдзень украінская армія знішчыла 300 баевікоў, пачаліся баі пад Марыупалем.

**Расія.** Ва ўмовах санкцый і далейшага абвалу цэн на нафту сёлета, як заявіў аналітык холдынга "Фінам" Антон Сарока, курс рубля можа знізіцца і да 90 рублёў за долар.

**Бельгія.** Міністры замежных спраў 28 дзяржаў ЕС вырашылі прадоўжыць санкцыі і ціск супраць Расіі за яе падтрымку баевікоў-сепаратыстаў Данбаса і за анексію Крыма.

**Англія.** Бізнэсаналітыкі The Times спрагназавалі, што сусветныя цэны на нафту могуць абваліцца да 20 долараў/барэль з-за пазіцыі ЗША на рынку здабычы і прадаж сырой нафты.

**Украіна.** Генпракуратура ўстанавіла, што збеглы ў Расію экс-прэзідэнт В. Януковіч з сям'ёй скралі з дзяржаўнага бюджэту 4,4 мільярда долараў, над ім будзе суд у завочным рэжыме.

**Італія.** Як і абяцаў, выбраны на другі тэрмін 89-гадовы прэзідэнт краіны Джорджа Напалітана датэрмінова падаў у адстаўку з-за ўзнікшых праблем са здароўем.

**Расія.** Без аднаўлення супрацоўніцтва з ЗША і НАТО і прызнання Данбаса часткай Украіны, як заявіў экс-прэм'ер РФ Я. Прымакоў, Расія страціць сябе, як вялікая дзяржава.

**Літва.** Пасля пераходу на еўра ў краіне на 7-10 % знізіліся цэны на паліва і звадкаваны газ, але астатнія тавары ў магазінах крыху падаражэлі, за выключэннем хлеба і малака.

**Расія.** Дзяржаўны бюджэт РФ сёлета, як заявіў міністр фінансаў А.Сілуанаў, недаатрымае 3 трыльёна рублёў, да канца года рост цэн будзе 15-17 %, а можа і болей, жыццё пагоршыцца.

**Польшча.** Расійскі прэзідэнт У. Пуцін не прыехаў на ўрачыстасці 70-годдзя вызвалення канцлагера Асвенцім, хоць і іншыя главы дзяржаў афіцыйна урадам РП не запрашаліся.

**Украіна.** Дыверсанты-баевікі "ЛНР" пранікі на ўкраінскую тэрыторыю за Луганскам і падарвалі на аўтадарозе на мінефугасе грузавік "Урал" з украінскімі ваеннымі.

**ЗША.** Фільм расійскага рэжысёра А. Звягінцава "Левіафан" атрымаў прыз "Залаты глобус", ён паказвае змрочнае жыццё расійскай глыбінкі і норавы рускіх улад.

**Расія.** Група расійскіх чыноўнікаў і кінарэжысёр М. Міхалкоў выступілі за зваротам аб стварэнні "патрыятычнага Інтэрнэта", падобны ёсць у КНДР з ідэалогіяй Чучхе.

**Латвія.** З-за абвастрэння адносін з Захадам паслед за музычным конкурсам "Новая хваля" на курорце ў Юрмале не адбудзецца і традыцыйны летні фестываль каманд клуба КВЗ.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля знікнення ў продажы памідор, перцу, іншых прадуктаў Міністэрства гандлю дазволіла бізнэсу павышаць цэны на імпартныя тавары адпаведна курсу долара.

**Мінск.** Пакуль не заспакоіцца сітуацыя ў Расіі, як заявіў эканаміст А. Сінкевіч, не будзе стабілізацыі і ў нас, прадоўжыцца далейшы рост цэн, нясоладка прыйдзецца бізнэсу.

**Гомель.** У адной з кватэр горада знайшлі задушанае яшчэ летам цела-мумію 3-месячнай дзяўчынкі, па падазрэнні ў яе забойстве дзіця затрымалі яе 31-гадовую маці разам з сужыцелем.

**Мінск.** У айчыннай эканоміцы велізарныя праблемы, як папярэдзіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, даўгі дасягнулі 215 трыльёнаў рублёў, неплацяжы па крэдытах падвоіліся.

**Пружаны.** У бюджэт прыйшлося 74-гадоваму пенсіянеру заплаціць 13,2 мільёна рублёў падаходнага падатку за жыццё "не па сродках" і набыццё 2-х кватэр пад Мінскам.

**Мінск.** Начальнік ДАІ МУС Беларусі Ю. Лiтвін паведаміў, што з 24 кастрычніка 2013 года за паўторную п'яную язду канфіскавалі ўжо 2400 аўтамабіляў у гаракіроўцаў.

**Мінск.** Папулярная недзяржаўная газета "Народная воля" зноў апынулася на мяжы закрыцця пасля вынясення ёй двух за год папярэджанняў Міністэрствам інфармацыі.

**Пінск.** У лясным масіве суседняга Іванаўскага раёна двое жыхароў Піншчыны жорсткім чынам забілі 27-гадовага кіраўніка адной з фермерскіх гаспадарак Пінскага раёна.

**Мінск.** Самай верагоднай датай правядзення сёлета прэзідэнцкіх выбараў, як заявіла старшыня Цэнтрвыбаркама Л. Ярмошына, з'яўляецца нядзеля 15 лістапада.

**Гомель.** З дапамогай службовай сабакі міліцыя знайшла і затрымала двух 23-гадовых гараджан-хуліганаў, якія з пнеўматычнага пісталета абстралялі вокны прыватнай фірмы.

**Мінск.** За свой 6-ы прэзідэнцкі тэрмін А. Лукашэнку, як заявіў шэфрэдактар "БелГазеты" В. Марціновіч, можна не хвалявацца, бо Крамлю не да змен у нас, апазіцыя раздробленая.

**Шклоў.** У мясцовую калонію на старое месца прыбыў па этапу з Магілёўскай турмы 58-гадовы экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, ён за кратамі ужо 5-ты год.

**Мінск.** Мітрапаліт Павел, патрыяршы экзарх усяе Беларусі праз месяц заявіў, што ўжо не жадае дабівацца самакіравання для Беларускай праваслаўнай царквы як у Малдове, Латвіі.

**Мінск.** Беларускі раней судзімы блатны спявак В. Каліна пабываў у Данбасе з канцэртамі падтрымкі баевікоў і прызнаўся, што там ваюе з украінцамі "ўся Расія" з Каўказа і Сібіры.

**Гродна.** Выдатна згулялі хакеісты мясцовага "Нёмана" ў суперфінале еўрапейскага Кантынентальнага кубка, сталі пераможцамі і заваявалі пуцёўку ў Лігу чэмпіёнаў.

## МНС і Мінфін патлумачылі, якія пенсіянеры ў Беларусі маюць палёгку па выплаце транспартнай дзяржпошліны



■ БЕЛТА

**Міністэрства па падатках і зборах і Міністэрства фінансаў патлумачылі, якія пенсіянеры ў Беларусі маюць права на льготу па выплаце дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў МПЗ.**

З 1 студзеня 2015 пенсіянеры па ўзросце атрымалі льготу па выплаце транспартнай дзяржпошліны. Яны яе выплачваюць па стаўцы з паніжаючым каэфіцыентам 0,5.

МПЗ і Мінфін растлумачылі, што да гэтай катэгорыі ільготнікаў трэба адносіць грамадзян, якім у адпаведнасці з заканадаўствам прызначаная пенсія па ўзросце і ў пенсійным пасведчанні якіх паказана, што пенсія ім прызначаная па ўзросце. Гэта, напрыклад, аўтаўладальнікі, якія атрымліваюць пенсію за выслугу гадоў.

Акрамя таго, 50-працэнтную льготу на выплату дзяржпошліны маюць грамадзяне, якія дасягнулі ўзросту, устаноўленага артыкулам 11 закона аб пенсійным забеспячэнні (мужчыны - па дасягненні 60 гадоў, жанчыны - 55 гадоў), па-за залежнасці ад выгляду прызначанай ім пенсіі. «Дасягненне названага ўзросту будзе пацвярджацца дакументам, які сведчыць асобу грамадзяніна», - растлумачылі ў МПЗ.

Як паведамлялася, палову транспартнай дзяржпошліны з 2015 года маюць права выплачваць таксама інваліды I або II групы. Паніжальны каэфіцыент 0,5 ужываецца ў дачыненні да стаўкі дзяржпошліны для транспартных сродкаў, якія прызначаны для перавозкі небяспечных грузаў.

Дзяржпошліна не выплачваецца ў дачыненні да спецыяльна абсталяваных для выкарыстання інвалідамі транспартных сродкаў - з ручным кіраваннем (адпаведны запіс павінен быць у тэхпашпарце) або, напрыклад, з прыладай для перамяшчэння непрацаздольных, крэслаў-калясак для інвалідаў. Ільгота дзейнічае на транспартныя сродкі, атрыманыя (набытыя) праз органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне ў адпаведнасці з раней дзеючым заканадаўствам, на машыны, якія выкарыстоўваюцца для аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку хуткай медпамогі.

Ільгота распаўсюджваецца таксама на транспарт МНС, прызначаны для абароны насельніцтва і тэрыторый ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару, на транспартныя сродкі Мінабароны, МУС, КДБ, Дзяржпагранкамітэта, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў, Следчага камітэта. Вызваляюцца ад выплаты дзяржпошліны транспартныя сродкі аўтамабільных перавозчыкаў, абавязаных выконваць аўтаперавозкі транспартам агульнага карыстання (згодна з пералікам Міністэрства транспарту і камунікацый), а таксама транспарт для забеспячэння сацыяльнага абслугоўвання і прадастаўлення сацыяльных паслуг непрацаздольным і іншым катэгорыям грамадзян, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. На такія транспартныя сродкі павінна быць нанесена ў адпаведнасці з заканадаўствам надпіс «Сацыяльная служба».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Урачы абласнога анкадыспансера асвоілі выяўленне на ўнікальным у Беларусі абсталяванні дыягнастыку раку на ранніх стадыях і лячэння хворых, як на Захадзе.

**Полацк.** Урад Беларусі ўключыў дарогу Р45 Полацк-Глыбокае-граніца Літвы ў Дзяржпраграму рэканструкцыі і капрамонту аўтамагістраляў на 2015-2019 гады.

**Віцебск.** За недапушчальны рост цэн на 30 % услед за крамамі гандлёвых сетак "Мегатоп", "Родная Сторона", "Ома" часова закрылі і дзіцячы магазін "Кенгуру".

**Браслаў.** Гандлёвая сетка "Еўраопт" арганізавала па два бясплатныя рэйсы для сваіх пакупнікоў з Відзаў і Шаркаўшчыны з 1 гадзінай на пакупкі і дастаўкай назад.

**Лепель.** На галоўным прадпрыемстве мясцовага МКК завяршылі 2-гі этап рэканструкцыі кацельні з пераўтварэннем яе ў мініТЭЦ, на філіяле ў Талачыне – цэха сыварактi.

**Мёры.** У райцэнтры сёлета, як пацвердзіў начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама Ю. Дзеркач, завершаць будаўніцтва новай раённай бальніцы.

**Докшыцы.** У выніку плана "Перахоп" міліцыя вечарам выявіла і затрымала жыхара райцэнтра, які п'яны на сваім аўто Мазда-626 збіў насмерць інваліда і ўцёк з месца ДТЗ.

**Лёзна.** З удзелам генеральнага пракурора Беларусі А. Канюка ў райцэнтры ўрачыста адкрылі новы будынак раённай пракуратуры коштам амаль 4 млрд. рублёў.

**Глыбокае.** У выхадны дзень глава раёна А. Моркат з памочнікамі наведалі Удзелаўскую бальніцу сястрынскага догляду, пагутарылі з пацыентамі, уручылі старым падарункі.

**Паставы.** Цудам выжыў пасля выбуху 18-гадовы юнак гараджанін, які недзе знайшоў артылерыйскі снарад і спрабаваў яго ачысціць і разабраць у гаражы сваёй бабулі.

**Наваполацк.** Гарадскі цэнтр IT-акадэміі "Нота" пачаў вучыць настаўнікаў і дырэктараў школ горада ствараць адукацыйныя інтэрнэт-блогі на спецыяльных курсах.

**Віцебск.** За ўдзел толькі расійскага спевака Ф. Кіркорава і яго калектыву на фестывалі мастацтваў "Славянскі базар" яго арганізатары заплацілі з бюджэту амаль 120 тысяч еўра.

**Врхнядзвінск.** Для брацкай магілы ў гарпасёлку Асвея заказалі мемарыяльную пліту з 27 устаноўленымі прозвішчамі загінулых воінаў, у ёй пахавана больш 600 салдат і афіцэраў.

**Орша.** Услед за Віцебскам супрацоўнікі ДАІ найбольш затрымалі выпівох за рулём у гэтым рэгіёне, на Віцебшчыне летась 300 п'яных кіроўцаў папаліся паўтора.

**Віцебск.** Дырэктар ФК "Віцебск" М. Вайцюхоўскі паведаміў, што пасля выхаду ў вышэйшую лігу бюджэт клуба павялічыўся ў 2 разы, бо сезон у эліце будзе няпростым.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Н.А. Баравік,
*дырэктар Дзяржархіва ў г. Глыбокае.*

# Вытокі скаўцкага руху на Дзісеншчыне

**Гісторыя сусветнага скаўтынга пачынае адлік з 1907 г., калі заснавальнік гэтага накірунку палкоўнік сэр Роберт Стывенсан Сміт Бадэн-Паўэл арганізаваў першы лагер скаўтаў у Вялікабрытаніі.**

Дзякуючы сваёй апалітычнасці, гульнявым формам выхаваўчай працы з дзецьмі, пазітыўным бачаннем навакольнага свету скаўцкі рух становіцца даволі папулярным сярод моладзі. Вядома, што да канца 1917 г. у Расіі налічвалася 50 тысяч скаўтаў у 143 гарадах.

Даследуючы матэрыялы архіўнага фонду выканаўчага камітэта Дзісенскага павятовага Савета працоўных, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, быў выяўлены цікавы дакумент амаль векавой даўнасці, які дазваляе праліць святло на гісторыю зараджэння скаўтынга на Дзісеншчыне.

Складанае палітычнае становішча ў Дзісенскім павеце, акупацыя з лютага па лістапад 1918 г. тэрыторыі павета нямецкімі войскамі, змена адміністрацыйнага ўпраўлення, няўпэўненае станаўленне савецкай улады і адсутнасць на гэтым этапе татальнага кантролю за дзейнасцю грамадскіх аб'яднанняў – усё гэта спрыяла ўтварэнню 6 кастрычніка 1918 г. дружыны дзісенскіх "Бой-скаўтаў", якая першапачаткова аб'ядноўвала ўсяго 16 юнакоў.

Да 22 лістапада 1918 г. тэрыторыя Дзісенскага павета вызвалена ад немцаў. Органы савецкай улады і ўпраўлення ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1918 г. былі прадстаўлены з'ездамі Саветаў і Саветам дэпутатаў, у перыяд паміж з'ездамі выканаўчы камітэт з'яўляўся вышэйшым органам мясцовай улады. Акрамя таго, была створана Дзісенская павятовая надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй, сабатажам, службовымі злачынствамі, так званая ЧК, якая валодала ў адпаведнасці з Дэкрэтам СНК РСФСР "Сацыялістычная Айчына ў небяспецы!" шырокімі паўнамоцтвамі: "непрыяцельскія агенты, спекулянты, грамілы, хуліганы, контррэвалюцыйныя агітатары, германскія шпіёны расстрэльваюцца на месцы злачынства". Менавіта ў Дзісненскую ЧК 20 студзеня 1919 г. звярнуўся начальнік першай Дзісненскай дружыны "Бой-скаўтаў" за афіцыйным дазволам для легальнага існавання ў г. Дзісна аб'яднання скаўтаў.

У сваёй заяве ён тлумачыць, што значыць "скаўт":

"… Скаўтам ці скаўткай можа быць хлопчык ці дзяўчына ад 8 да 17 гадоў, якія павінны выконваць наступныя правілы:

1. Скаўт кажа праўду.
2. Скаўт верны радзіме і сваім абавязкам.
3. Скаўт ахвотна дапамагае блізкім.
4. Скаўт у кожным чалавеку бачыць блізкага, а ўсякага іншага скаўта лічыць за брата.
5. Скаўт павінен быць ветлівы і паступаць з усімі па-рыцарску.
6. Скаўт любіць прыроду і імкнецца яе даследаваць.
7. Скаўт павінен быць дысцыплінаваны і паслухмяны.
8. Скаўт заўсёды вясёлы і ў добрым размяшчэнні духу.
9. Скаўт ашчадны.
10. Скаўт чысты ў думках, у словах і дзеяннях, не курыць, не п'е алкаголю і не гуляе ў рызыкоўныя гульні.

Мэта скаўтаў – чыста выхаваўчая, г.зн. пасродкам фізічнай гімнастыкі, дысцыпліны, грамадскасці развіць і загартаваць у юнаках фізічную сілу, характар, цягавітасць, словам – прышчапіць у іх добрыя рысы чалавека і грамадзяніна.

"Скаўтынг" ніякай палітычнай мэты не праследвае…".



Заява была разгледжана, і з алоўкавай рэзалюцыяй без подпісу, якая абвяшчала: "*адхіліць*", перанакіравана ў Дзісненскі павятовы выканкам.

Кропка ў гэтай гісторыі была пастаўлена на пасяджанні Дзісенскага павятовага выканкама 10 лютага 1919 г., у прынятым па дадзеным пытанні рашэнні гаварылася: "*адхіліць таксе, як не адпаведнае духу часу і якое адцягвае ад вызначанай працы ў строга камуністычных рамках*".

І ўсё ж дадатны досвед менавіта скаўцкіх аб'яднанняў у будучыні стаў асновай стварэння піянерскіх арганізацый – "*скаўцкіх па форме і камуністычных па змесце*" (словы Н. К. Крупскай з працы "РКСМ і бойскаўтызм").

# Браслаўскі раён можа стаць першым у Беларусі кліматычна нейтральным рэгіёнам

**У Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці будзе рэалізаваны праект па стварэнні да 2030 года першага ў Беларусі кліматычна нейтральнага рэгіёну. Пра гэта паведаміў кіраўнік энергетычнай праграмы Цэнтра экалагічных рашэнняў Дзмітрый Буронкін 23 студзеня ў Мінску на канферэнцыі па энергазберажэнні і энергаэфектыўнасці.**

Паводле яго слоў, праект разлічаны на 30 месяцаў, а яго рэалізацыя пачнецца, як мяркуецца, у маі 2015 года. Бюджэт праекта складае 735 тыс. еўра — каля 600 тыс. еўра выдзеліць Еўрасаюз, яшчэ 135 тыс. горад павінен знайсці самастойна.

У межах праекта ў раёне плануецца рэалізаваць шэраг стратэгічных і практычных мерапрыемстваў, расказаў Буронкін. Сярод стратэгічных — правядзенне для спецыялістаў азнаямленчых тураў у еўрапейскія гарады; правядзенне кліматычнага аўдыту раёна (вызначэнне аб'ёму выкідаў вуглякіслага газу і патэнцыялу па іх скарачэнні); распрацоўка стратэгіі кліматычнай нейтральнасці; стварэнне грамадскага інфармацыйнага цэнтра па энергаэфектыўнасці і распрацоўка практычных рэкамендацый па энергазберажэнні для насельніцтва.

Практычныя мерапрыемствы прадугледжваюць распрацоўку сістэмы па выкарыстанні саломы ў якасці паліва, уключаючы лагістыку і захоўванне; устаноўку катлоў магутнасцю 1,5 МВт на цэнтральнай кацельні Браслава, якія працуюць на саломе; замену часткі ацяпляльнай трубы на больш энергаэфектыўную; усталяванне сонечных калектараў на будынку дзіцячага сада, цеплаабменнікаў – у шматпавярховым доме; замену 5% лямпачак гарадскога асвятлення на святлодыёдныя; усталяванне датчыкаў гуку і руху ў пад'ездах.

Для павышэння турыстычнай прывабнасці рэгіёну плануецца распрацаваць турыстычны маршрут па экалагічных праектах. "Калі ўжо ты прыехаў у Браслаў на экскурсію і паглядзеў замак і царкву, то чаму б не з'ездзіць на другую экскурсію і не паглядзець сонечны калектар і, напрыклад, цеплавую помпу? Каб гэта экскурсія была яшчэ цікавейшай, мы вырашылі закласці туды набыццё электрамабіля для турыстаў", – расказаў Буронкін.

Акрамя таго, у раёне плануецца арганізаваць пункты арэнды веласіпедаў, а таксама абсталёўваць грамадскія месцы ўзнаўляльнымі крыніцамі энергіі. "Напрыклад, як у многіх еўрапейскіх гарадах, у цэнтры горада будзе месца, дзе можна будзе зараджаць мабільны тэлефон ад сонечнай батарэі, – нейкія лаўкі, дзе людзі могуць збірацца і зараджаць свае дэвайсы ці працаваць", – адзначыў спецыяліст.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

# Некаторыя паляўнічыя мараць падстрэліць «зайца з капытамі»

**Зіма з'яўляецца адной з найпрыгажэйшых пор года. З надыходам моцных маразоў жыццё нібы запавольваецца, здаецца, што час нібы спыніўся. Замірае жыццё і ў лесе, звяры ўзмоцнена харчуюцца і, эканомячы сілы, менш перасоўваюцца. А вось у браканьераў нічога не мяняецца, яны працягваюць рабіць сваю цёмную справу, знішчаючы ўсё жывое, нягледзячы на тое, што асноўная маса звяроў чакае прадаўжэння роду.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы, нататкі аб учыненых фактах браканьерства на тэрыторыі краіны, пра асоб, што іх учынілі і пакараннях, вынесеных судамі за ўчыненыя злачынствы. Тэлеперадача Зона «Х» сістэматычна асвятляе самыя свежыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства. Стаўленне грамадзян да парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства прыкметна змянілася, грамадзяне нашмат радзей парушаюць і часцей звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, паведамляючы пра факты браканьерства і парушэннях.

Аднак, яшчэ не рэдкія выпадкі браканьерства, забойства дзеля мяса, нягледзячы на тое, што паляванне без спецыяльнага дазволу на здабычу дзікай жывёлы забаронена. Свядомасць такіх людзей застаецца на ўзроўні найпростых мікраарганізмаў, інстынкт самазахавання адсутнічае цалкам.

Ноччу 21 студзеня гэтага года неўстаноўленыя браканьеры (пакуль, ёсць важкія доказы, а значыць, і шанцы ўсталяваць асобы) забілі лясного прыгажуна, лася. Паранены звер з апошніх сіл імкнуўся адысці ад недачалавекаў, але раны былі занадта цяжкія. У чалавека заўсёды ёсць перавага, агнястрэльная зброя, хуткаходныя аўтамашыны, квадрацыклы, прыборы начнога бачання і г.д., шанцаў жа ў жывёлы няма.

22 студзеня работнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ў паляўнічых угоддзях затрыманы жыхар Докшыцкага раёна, з расчахлёнай стрэльбай, гатовай да ўжывання, а вось дакументаў на права палявання, захоўвання і нашэння зброі ў затрыманага не было, яны знаходзіліся дома. Парушальнік адказаў, маўляў, а навошта, я ж магу іх згубіць, а са стрэльбай можна хадзіць проста так. Атрымліваецца нейкая «Чачня», стрэльбу наперавес, дастаў з чахла, зарадзіў і хаджу, дзе хачу, раблю, што хачу. Раённы суд дасць ацэнку дзеянням «паляўнічага», яму пагражае штраф да 50 базавых велічынь і пазбаўленне права палявання.

24 студзеня ўжо жыхар Пастаўскага раёна затрыманы інспектарамі за парушэнне Правілаў палявання, быццам бы і дакументы ўсе пры сабе, ды толькі стрэльба пры паляванні на зайца зараджана карцеччу, можна падумаць, што ў нас водзяцца зайцы ростам з буйвала. Правілы палявання забараняюць пры паляванні на пушнога звера нашэнне і тым больш зарадку стрэльбы карцеччу або кулявымі патронамі. Недасведчанаму чалавеку здасца, што гэта ўсё дробязь, але паляўнічыя ведаюць, што пасля стрэлу карцеччу па зайцу ад яго застануцца толькі вушы і скура ў дзірачкі, а зараджаюць парушальнікі такія патроны для таго, што падстрэліць «зайца з капытамі», інспектара да кожнага паляўнічага не прыставіш.

За мінулы тыдзень інспектарамі выяўлена 5 парушэнняў Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 8-02156-2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**




# Майстар Віктар Дудкевіч вярнуўся на сваю малую радзіму

**У Браславе, на радзіме мастака і разьбяра па дрэве Віктара Дудкевіча 23 студзеня адкрылася яго выстава пад назвай «Вяртанне».**

■ **Зміцер Лупач**



Выстава праходзіць у Браслаўскім музеі традыцыйнай культуры, на ёй прадстаўлена каля васьмі дзясяткаў прац майстра ў розных накірунках.

Як паведаміла метадыст гэтага музея Ганна Нікіфарава, на выставе можна будзе пазнаёміцца з творчасцю мастака, пачынаючы з яго першай працы і да апошняй на сённяшні час.

– Мастак прывёз графіку, жывапіс і дробную пластку з дрэва. Сярод карцін – тэматычныя працы – краявіды Браслава і касцёлы Глыбоччыны. Частка выставы прысвечаная драўляным цацкам. У браслаўчан ёсць магчымасць пабачыць, як выглядалі дзіцячыя цацкі шмат гадоў таму, даведацца, з чаго пачыналася гэтая індустрыя.

У гэтым годзе споўніцца дзесяць гадоў, як Віктар Дудкевіч працуе метадыстам у Глыбоцкім Доме рамёстваў. Як кажа спадар Дудкевіч, ён сюды ўладкоўваўся на працу часова, але потым так і застаўся тут працаваць. У гэтым годзе ў Віктара яшчэ адзін юбілей: у жніўні ён адзначыць сваё 55-годдзе. Да гэтага юбілею ён і прымеркаваў выставу на сваёй малой радзіме.

Віктар Дудкевіч займаецца разьбой па дрэве, жывапісам, стварыў макеты старадаўніх прылад для апрацоўкі дрэва. Цікавіцца гісторыяй старажытнай цацкі, яе адраджэннем, вялікі знаўца беларускага арнаменту, а таксама гарачы прыхільнік беларускай мовы.



Нядаўна Віктар Дудкевіч праславіўся тым, што зрабіў унікальны грэбень, які падараваў цэнтру прыгажосці «Клеапатра» ў Глыбокім.

Выстава ў Браславе будзе працаваць да 18 сакавіка з дзевяці да васямнаццаці гадзінаў. Запрашаем усіх, хто будзе мець такую магчымасць, наведаць гэту выставу.

# У Мядзельскім раёне айчым ледзь не забіў пасынка з-за спрэчкі, якую перадачу глядзець па тэлевізары

**Пацярпелы знаходзіцца ў шпіталі. Падазраваны ўзяты пад варту. Узбуджаная крымінальная справа, якая пасля праведзенай праверкі 21 студзеня была перакваліфікавана ў замах на забойства.**

Як распавёў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Міхаіл Сакалдынскі, канфлікт адбыўся ўдзень 9 студзеня.

Падазраваны С., 1948 года нараджэння, – айчым пацярпелага К., 1979 г.н., жывуць яны ў адным доме ў вёсцы Чарэмшыцы Мядзельскага раёна. Раніцай К. атрымаў пенсію айчыма па яго ж просьбе і купіў спіртное. Пасля яны разам выпівалі.

Раптам, па словах Міхаіла Сакалдынскага, паміж мужчынамі ўзнікла сварка з-за тэлевізара: яны не змаглі дамовіцца, якую глядзець перадачу. У выніку айчым узяў у рукі нож і не менш чатырох разоў ударыў пасынка ў розныя часткі цела. Пацярпелага з раненнямі шпіталізавалі.

Па факце Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па першай частцы артыкула 147 Крымінальнага кодэкса Беларусі «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання».

Пасля праведзенай праверкі 21 студзеня крымінальную справу перакваліфікавалі на ч.1 арт.14 і ч.1 арт.139 КК Беларусі (замах на забойства). У дачыненні да падазраванага абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Пацярпелы знаходзіцца ў шпіталі. Зараз нішто не пагражае яго жыццю. Абодва мужчыны раней судзімыя не былі.

*naviny.by*

## У мэтах павышэння ўзроўню арганізацыі бяспекі дарожнага руху, узмацнення кантролю за ўтрыманнем вулічна-дарожнай сеткі ў зімовых умовах, на тэрыторыі Глыбоцкага раёна

**з 26 студзеня па 12 лютага 2015 года**




## праводзіцца аператыўна-прафілактычнае мерапрыемства «Зімовая дарога».

# Дзеці ў небяспецы

**Следствам большасці пажараў, якія адбываюцца ў хатах і кватэрах, з'яўляецца праславуты чалавечы фактар. А вось пажары, якія адбыліся па віне дзяцей, напэўна, можна назваць – фактар бацькоўскай бяспечнасці.**

Паважаныя бацькі, успомніце, дзе ў вашай хаце захоўваюцца запалкі. Ці бачыла дзіця, куды вы іх звычайна кладзяце? Ці ўпэўненыя вы ў тым, што маляня не зможа да іх дацягнуцца? Як правіла, ужо пасля, калі выправіць нічога нельга, бацькі ўспамінаюць, што не надавалі гэтаму ніякага значэння, бышы ўпэўненымі ў тым, што іх дзіця не зможа дабрацца да запалак. Ды і пакідалі дзіця ўсяго вось на колькі хвілінаў. На жаль, гэтых, якія набілі горкую аскому, некалькіх хвілінаў досыць для таго, каб падпаленая запалка, якая выпала з дзіцячых рук, стала прычынай пажару.

Менавіта таму мы яшчэ і яшчэ раз звяртаемся да вас, шаноўныя бацькі. Вы вучыце сваіх дзяцей быць ветлівымі, клапоціцеся пра іх здароўе, хочаце, каб яны раслі разумнымі і развітымі. Хоць навучыць выконваць правілы бяспекі - самая галоўная задача, таму што ад гэтага залежыць жыццё дзіцяці.

Праз штодзённыя зносіны са сваім дзіцем вы даведваецеся аб пытаннях, якія хвалююць яго і, вырашаючы з ім яго праблемы, дапамагаеце навучыцца правільна паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Таму размаўляйце з дзецьмі, дапамагайце вырашаць ім, хай нават дробязныя, па вашым меркаванні, праблемы.Назіраючы за гульнёй дзіцяці, мы глядзім на сябе з боку. А значыць, нам самім трэба быць максімальна асцярожнымі і ўважлівымі, ведаючы, што наша дзеянне дзіця можа паўтарыць з дакладнасцю да драбнюткіх дэталяў. Таму, калі хочаце навучыць дзіця правілам бяспекі, першым чынам самі выконвайце іх.

Паважаныя бацькі, захоўвайце запалкі, запальнічкі ў недаступных для дзяцей месцах, не дазваляйце дзецям самастойна карыстацца газавымі і электрычнымі прыборамі, цепліць печы. Дзіцяці неабходна растлумачыць, што ў выпадку пажару неабходна выбягаць на вуліцу і ні ў якім разе не хавацца.

Побач з тэлефонам на лісце паперы напішыце нумары экстраных службаў, і растлумачце дзіцяці, пры якіх акалічнасцях імі можна скарыстацца.

Дзіця павінна ведаць сваё поўнае імя, хатні адрас і нумар тэлефона. Добра, калі ён будзе ведаць і нумар тэлефона суседзяў ці людзей, якім вы давяраеце. Навучыце дзіця карыстацца мабільным тэлефонам для таго, каб пры неабходнасці ён мог патэлефанаваць у службы экстранай дапамогі, а таксама вам на працу.

Вядома, немагчыма прадугледзець усе сітуацыі і даць рады на ўсе выпадкі жыцця. Але навучыць дзіця быць асцярожным можна і трэба. І ніхто не зможа гэта зрабіць лепш, чым бацькі. Бо менавіта ўвага, любоў і клопат бацькоў з'яўляецца самай надзейнай і лепшай абаронай для дзіцяці.

*Андрэй Андрыеўскі,*
*інспектар ІНіП Глыбоцкага РАНС*

*2 па 27 лютага акцыя МНС у Глыбоцкім раёне*

# "Бяспеку – у кожны дом!"

**На 23.01.2015 года па Віцебскай вобласці адбылося 49 пажараў, на якіх загінула 12 чалавек. Па Глыбоцкім раёне адбылося 4 пажары, загінуў 1 чалавек.**

Парушэнне правіл пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога ацяплення – сталая прычына пажараў у перыяд ацяпляльнага сезону. Па статыстыцы вінаватымі і ахвярамі "пячных" пажараў становяцца галоўным чынам пенсіянеры, інваліды і самотныя старыя...

У апошні час амаль у кожнай штодзённай зводцы, якая паступае з дзяжурнай часткі МНС, паведамляецца пра чарговы пячны пажар.

Існуе заканамернасць: больш паловы пячных пажараў адбываецца ў тых дамах, дзе жывуць састарэлыя людзі. І прычынай таму – не толькі парушэнне правіл пажарнай бяспекі і неасцярожнасць з-за дрэннага зроку і памяці. На жаль, старыя не заўсёды могуць адрамантаваць пячное абсталяванне на свае сціплыя зберажэнні. А пра тое, каб яны склалі новыя печы, на жаль, часам паклапаціцца проста няма каму. Праца ў гэтым кірунку з боку органаў і падраздзяленняў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь праводзіцца ўвесь час. Вядома, інспектары інспекцыі нагляду і прафілактыкі сістэматычна правяраюць іх і паказваюць гаспадарам на неабходнасць прыняцця належных мер бяспекі. Але, часцяком, пенсіянер па сваім складаным матэрыяльным становішчы не ў стане нават адрамантаваць і абтынкаваць комін у межах гарышча, паправіць электраправодку, замяніць уцяпляльнік на гарышчы на незгаральны ці зрабіць неабходнае разробліванне і адступку печы, прыбіць перад ёй перадтопачны ліст.

Вось і працягваюць тапіцца няспраўныя печы. І атрымліваецца, што дзіравы "хатні агмень" становіцца агменем пажару. У сувязі з гэтым, рэкамендуецца выконваць наступныя асноўныя правілы.

Перад пачаткам ацяпляльнага сезону печы і коміны неабходна прачысціць, адрамантаваць, а таксама сценавыя дымавыя каналы ў межах памяшкання, і асабліва дымавыя трубы на гарышчы трэба пабяліць вапнавым ці гліняным растворам, каб на белым фоне можна было заўважыць чорныя расколіны, якія з'яўляюцца ад дыму, што праходзіць праз іх. Рамонт і муроўку печаў можна давяраць толькі асобам і арганізацыям, якія атрымалі адмысловую ліцэнзію Міністэрства па надзвычайных сітуацыях на правядзенне гэтых работ.

Печ, дымавая труба ў месцах злучэння з драўлянымі паддашкавымі ці міжпавярховымі перакрыццямі павінны мець патаўшчэнне цаглянай муроўкі – разробліванне. Не трэба забываць і пра патаўшчэнне сценак печы.

Любая печ павінна мець самастойны падмурак і не прылягаць усёй плоскасцю адной са сценак да драўляных канструкцый. Трэба пакідаць паміж імі паветраны прамежак – адступку.

На драўлянай падлозе перад топкай неабходна прыбіць металічны (перадтопачны) ліст памерамі не меней 50 на 70 см. Каб не дапушчаць перакалу печы рэкамендуецца цепліць яе два-тры разы ў дзень і не больш чым па паўтары гадзіны. За 2 гадзіны да адыходу да сну топка печы павінна быць спыненая.

Каб пазбегнуць утварэння расколін у муроўцы, трэба перыядычна прачышчаць комін ад сажы, які назапашваецца ў ім.

Попел, шлак, вугаль варта выдаляць у адмыслова адведзеныя для гэтага месца. Не дазваляецца рабіць такія месцы збору бліжэй 15 метраў ад згаральных будынкаў.

У месцах, дзе згаральныя і цяжка згаральныя канструкцыі будынкаў (сцены, перагародкі, перакрыцці, бэлькі) прылягаюць да печаў і дымоходных труб, неабходна прадугледзець разробліванне з незгаральных матэрыялаў.

<u>ЗАБАРАНЯЕЦЦА:</u>

**Пакідаць печы, якія топяцца, без нагляду ці для нагляду іх малалетнімі дзецьмі.**

**Ужываць для распальвання печаў гаручыя і лёгкаўзгаральныя вадкасці.**

**Растопліваць печы дровамі, якія па даўжыні не змяшчаюцца ў топцы (па паленах агонь можа выйсці вонкі і перакінуцца на найбліжэйшыя прадметы, падлогу і сцены).**

**Уладкаванне ў паддашкавых памяшканнях гарызантальных дымавых каналаў, а таксама адтулін для чысткі дымавых каналаў.**

**Выкарыстоўваць для муроўкі печаў і комінаў сілікатную цэглу (за выключэннем труб вышэй даха).**

**Выкарыстоўваць для дымавых труб печаў керамічныя, азбестацементавыя і металічныя трубы. У выпадку, калі комін выканаы пасродкам выкарыстання ўказаных канструкцый, дадзеную трубу коміна неабходна абкласці глінянай цэглай у межах паддашкавай прасторы і вывесці цагляную муроўку вышэй пакрыцця даху на 5-7 вянкоў.**

**Выкарыстоўваць вентыляцыйныя і іншыя каналы ў якасці комінаў печаў.**

**Сушыць на печы рэчы і сырыя дровы. І сачыце за тым, каб мэбля, фіранкі знаходзіліся не меней чым у паўметры ад масіва печы, якая топіцца.**

Выкананне гэтых правіл засцеражэ ваша жыццё ў перыяд ацяпляльнага сезону, і вы зможаце спакойна нацешыцца ў халодны зімовы вечар цяплом хатняга агменю.

З мэтай папярэджання пажараў і гібелі людзей ад іх з 2 па 27 лютага ў Глыбоцкім раёне пройдзе акцыя "Бяспека – у кожны дом!".

*Андрэй Андрыеўскі,*
*інспектар ІНіП Глыбоцкага РАНС*



